Цана асобнага нумару 20 грош.

# БЕЛАРУСКАЯ СПРАВА

Выходзіць два разы ў тыдзень.

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12—6. (Wileńska 12, m. 6). Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзён. Адміністр. ад 9 да 3. | Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 2 зл. Для заграніцы ўдвая даражэй. Перамена адраса 30 гр. Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі. | Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грошы і на 4 стр. 15 гр. за радок пэтыту ў 1 шпальту. |
|---|---|---|

№. 9 — Вільня, Серада, 19-га траўня 1926 г. — Год I.

## Пасьля перамогі.

„Спроба сілы", зробленая маршалкам Пілсудскім, з ваеннага пункту гледжаньня закончылася поўнай удачай. Апранутыя ў жаўнерскія мундзіры сяляне і работнікі ахвярай сваей крыві здабылі Варшаву — сталіцу дзяржавы, апанавалі ўсе дзяржаўныя ўстановы. І блізу ўсе войскі ў Польшчы (апрача Пазнані і Галічыны, скуль яшчэ няма вестак) падчыніліся загадам марш. Пілсудскага.

Але выступленьне марш. Пілсудскага на чале адданых яму войск мела не ваенныя, а *палітычныя мэты.* І — сьледам за вайсковай—трэба адзначыць такую-ж *поўную ўдачу на палітычным груньце*: ўрад Вітаса, абвінавачаны ў самых нягодных паступках, урад, які меўся аканчальна замацаваць панаваньне ў Польшчы чорнае рэакцыі,—ўрад гэты перастаў існаваць і—пасьля няўдалае спробы бараніцца аружжам — зрокся сваей улады і далейшай барацьбы. Так сама зрокся становішча прэзыдэнта і пан Войцеховскі, які быў выбраны ў свой час галасамі *польскае дэмакратыі і нацыянальных меншасьцяў,* ды цалком перайшоў на бок *рэакцыйнае і нацыяналістычнае польскае буржуазіі* —Гэтак развалілася *галоўная цытадэль польскіх абшарнікаў і капіталістаў,* даваўшая ім магчымасьць у цяжкай няволі трымаць працоўнае сялянства і работнікаў.

Адным ударам пан Пілсудскі адсек галаву гідры, паняволіўшай працоўныя масы Польшчы. Але гідра гэная мае тую ўласьцівасьць, што адсечаная галава яе адрастае, пакуль істнуе цела. І задача, дзеля якое вуліцы Варшавы былі заліты крывёй жаўнераў і мірнага насяленьня, з адстаўкай п. п. Войцеховскага і Вітаса *ня скончана*: *інтарэсы сялян і работнікаў,* якія, нясучы сваю павіннасьць на вайсковай службе, так рашуча пайшлі за марш. Пілсудскім у мамэнт яго выступленьня процi фашыстаўскага ўраду Вітаса, *трэбуюць, каб мамэнт перамогі быў выкарыстаны да канца,* каб гідра рэакцыі не магла ўжо больш падняць сваю галаву.

Ня гледзячы на тое, што ў мінулым п. Пілсудскі ня зьдзейсьніў зусім сваіх абяцанак, так шчодра даваных беларусам, — беларускія працоўныя масы, беларускія сяляне і работнікі *хочуць* бачыць у цяперашнім выступленьні марш. Пілсудскага шчырую волю пакласьці ў аснову далейшае палітыкі Польшчы сацыяльную справядлівасьць,—каб ня было больш у дзяржаве „зашмат несправядлівасьці ў адносінах да тых, што іншым працу сваю аддаюць". Гэтая шчырая воля мусіць выявіцца ў ствараньні ўлады, абапертай на сялянах і работніках, у правядзеньні зямельнае рэформы па прынцыпе: зямля сялянству—бяз выкупу і сплаты, у скасаваньні асадніцтва на нашых землях, у зьнясцьці непасільных падаткових цяжараў з сялянства, у аддачы пад контроль работнікаў фабрык і заводаў, у поўнай амністыі ўсім так-званым „палітычным праступнікам"—барацьбітам за палітычнае, сацыяльнае і нацыянальнае вызваленьне беларусаў. Гэтая шчырая воля павінна палажыць канец сыстэме нацыянальнага ўціску нашага народу, павінна адчыніць нам поўную магчымасьць творчае культурнае працы і зьдзейсьненьня нашых найвышэйшых нацыянальных ідэалаў. І тады беларускія працоўныя масы пойдуць на далейшае змаганьне за марш. Пілсудскім, разумеючы, што яны змагаюцца за сваю ўласную справу!

Але з Варшавы йцуць весткі, якія выклікаюць вялікі неспакой сярод беларусаў. Так, аказваецца, што пан Пілсудскі як-быццам *ня хоча* выкарыстаць усіх тых магчымасьцяў, якія перад ім стаяць, дзякуючы ўтварыўшамуся палажэньню і падтрыманьню з боку працоўных масаў. Новы ўрад назначае маршалак Сойму пан Ратай, сябра партыі пястоўцаў, галавой якое зьяўляецца... пан Вітас! Пан Ратай у справе складу новага ўраду радзіўся ня толькі з панам Пілсудскім, але і з такімі „стаўпамі рэакцыі", як эндэк і заклятвы вораг п. Пілсудскага, пасол Залуска, як хадэк Бітнэр і т. п. Больш таго: ў гэны новы ўрад уваходзе і сам марш. Пілсудскі, як міністар вайсковых спраў, ды гэтак цалком падчыняецца сучаснаму складу Сойму, *большасьць* якога падтрымлівала якраз урад Вітаса!.....

Што гэта знача?—Такое пытаньне задаем ня толькі мы, але і польскія дэмакраты („Kur. Wil."), дый усе наагул палітычна думаючыя людзі. Няўжо-ж пралітая кроў і зроблены высілак арміі, зложанай у сваей вялізарнай большасьці з сыноў сялян і работнікаў, так і прападзе бяз знаку, зьмяніўшы толькі людзей, кіруючых дзяржавай, але ня сыстэму і лад у дзяржаве?! Няўжо-ж усё мае астацца пастараму—з тэй толькі розьніцай, што скампраметаваныя брыднымі справамі палітыкі будуць заменены другімі—з тэй-жа ідэалёгіяй, толькі з чысьцейшымі рукамі?!...

Марш. Пілсудскі распачаў сваё аружнае выступленьне, слухаючыся голасу арміі: марш з Сулеювка на Варшаву ён распачаў тады, калі да яго пачало наплываць войска з заклікам вясьці яго наперад. І голас арміі быў у гэтым выпадку зусім згодны з голасам усіх працоўных. — Няўжо-ж п. Пілсудскі змарнуе тую вялізарную сілу, якую мае ў сваіх руках?!.. Няўжо-ж допусьціць, каб мо' заўтра, ці праз тыдзень або месяц узмацаваўшаяся нанова рэакцыйная і нацыяналістычная польская буржуазія на ўдар адказала ўдарам?!

Тады выпадкі пойдуць *паміма п. Пілсудскага...*

## Становішча Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады.

Галоўная Управа Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады, абсудзіўшы палітычную сытуацыю ў зьвязку з рэволюцыйным выступленьнем арміі на чале з маршалкам Пілсудскім процiў эндэцка-вітасоўскага ўраду, сцьвярджае, што перамога Пілсудскага зьяўляецца цяжкім ударом для польскай чорнасоценна-фашыстаўскай рэакцыі.

Б. С. Р. Грамада бачыць у гэтым толькі першую перамогу над блёкам абшарнікэў і капіталістаў і рашуча будзе паддзержываць барацьбу з рэакцыяй, якая бязумоўна ўсе сілы змабілізуе на адваяваньне страчаных пазыцый.

Ужо цяпер трэба адзначыць, што ў новы ўрад, створаны паслом Бартэлем з даручэньня пястоўскага маршалка Сойму Ратая ўваходзяць такія „лібэральныя" асобы, як ведамы палескі ваявода Млодзяновскі, як міністар справядлівасьці Макоўскі і міністар прасьветы Мікулоўскі-Паморскі, якія ўжо былі міністрамі ў габінэце генэрала Сікорскага і вялі палітыку процiў інтарэсаў працуючых мас, уціскалі беларусаў, украінцаў і ўсе іншыя нац. меншасьці. Наагул нова-створаны ўрад не дае ніякой пэўнасьці таго, што стане цьверда ў абарону працоўных, пакрыўджаных мас. Маршалак Пілсудскі, які выступіў на тое, каб у „Польшчы ня было лішне шмат несправядлівасьці для тых, хто сваю працу дае другімі, каб у Польшчы ня было лішне шмат бяспраўя", нажаль затрымаўся на поў-дарозе, калі на вуліцах Варшавы за народную справу абільна пралілася кроў сялян і работнікаў палякоў побач з беларусамі, украінцамі і жыдамі.

Тымчасам выступленьне рэволюцыйнага войска, на якім апіраецца маршалак Пілсудскі, стварыла такое палажэньне, калі сталася зусім магчымым стварэньне сялянска-работніцкага ўраду.

Стоючы на груньце сялянска-работніцкага ўраду, Б. С.-Р. Грамада дамагаецца:

1. Распушчэньня Сойму і Сэнату і новых выбараў пасьля поўнага ачышчэньня ўсяе адміністрацыі ад рэакцыйных элемэнтаў.
2. Скасаваньня кары сьмерці, скасаваньня даразных судоў і поўнай амністыі для ўсіх палітычных.
3. Безадкладнага выданьня закону аб перадачы сялянству ўсяе зямлі бяз выкупу.
4. Скасаваньня асадніцтва.
5. Безадкладнага ўвядзеньня работніцкага контролю над прамысловасьцю.
6. Пералажэньня ўсяго цяжару падаткаў на багатыя клясы.
7. Поўнае перамены курсу ў нацыянальнай палітыцы ў духу самаазначаньня Народаў і запраўднае роўнапраўнасьці.

**Галоўная Управа Б. С.-Р. Грамады.**

15. V. 1926 г.

## Барацьба марш. Пілсудскага з урадам Вітаса.

**(Далейшы ход крывавых падзей у Варшаве).**

### Уцёкі з Бэльвэдэру.

„Кур. Поран." падрабязна апісвае, як уцякаў Прэзыдэнт Войцеховскі з некаторымі сябрамі ўраду Вітаса і з генэраламі з бамбардаванага артылерыяй Пілсудскага Бэльвэдэру.

А 1 гадзіне папалудні 14 траўня ў Бэльвэдэры ўжо зусім страцілі надзею на перамогу ды пачалі рыхтавацца да ўцяканьня.

А 3 гадзіне ўвесь „генаральны штаб рэакцыі", на чале з Прэзыдэнтам Войцеховскім ды Вітасам, пакінуў Бэльвэдэр, пралез ззаду праз дзіру ў мураванай агарожы яго парку ды ўцёк у падмястовую вёску Аўгустова, а адтуль у палац Вілянов. Прэзыдэнт, каб яго не пазналі, апрануўся ў спартовы касьцюм цykліста. Усяго было ў „штабе" каля 30 асобаў, ваенных і цывіляў. Некаторыя былі азброены. Сьпераду ды ззаду ўцекачы мелі азброены вайсковы патруль—з верных ураду войск. Характэрна, што атрад, які йшоў наперадзе, інфармаваў цікавых, што гэта йдуць адданыя марш. Пілсудскаму стральцы ды ахвотнікі...

Дык калі войска Пілсудскага каля 5 гадз. папалудні заняло Бэльвэдэр, там ужо ня было нікога...

### Куды падзеліся міністры Вітаса?

Самалётам уцяклі да Пазнані толькі міністры: справядлівасьці—Пехоцкі ды гандлю і прамысловасьці—Асецкі.

Міністар чыгункі астаўся ў Бэльвэдэры, дзе і быў арыштаваны Мін. публічных работ Рыбчынскі і мін. аграрн. рэформ Радван уцяклі да сваіх кватэраў. Рэшта, якраз—галоўнае ядро — уцяклі разам з Прэзыдэнтам.

### Адступленьне з Варшавы ўрадавых войск.

Праз паўтары гадзіны пасьля ўцечкі Прэзыдэнта з Вітасам пачало за імі адступаць з Варшавы і ўсё бараніўшае іх войска.

Загад аб адступленьні прывезьлі з Аўгустова 2 агенты дэфэнзывы на вэлясыпэдах. Адступленьне йшло „ўрассыпную", дробнымі акраіннымі вулічкамі...

Характэрна, што жыхары, бачучы войска, віталі яго, як пілсудчыкаў, крыкамі: „хай жыве Пілсудскі", на што вітасавы малайцы, уцякаючыя ад азброеных, адказывалі стрэламі ў безбаронных людзей...

Характэрна і тое, што пазнанскія вітасавыя

войскі, уцякаючы, забівалі абозных каней ды зьніштажалі рознае вайсковае дабро, каб толькі яно не дасталася пілсудчыкам...

### Прэзыдэнт і вітасавы ўрад ідзе на капітуляцыю.

З Аўгустова Прэзыдэнт з Вітасам, пасьля нарады ўраду, выслалі да Пілсудскага „паслоў міру",—ксяндза Токажэўскага і маёра Мазанка, прапануючы перагаворы. Марш. Пілсудскі згадзіўся, і ў 12 г. уначы з Варшавы выехалі паўнамоцнікі Пілсудскага — на паразуменьне з „генеральным штабам польскай рэакцыі".

### Не да Маршалка Пілсудскага, але — да маршалка Ратая.

Але, як аказалася, „мірныя паслы" ад Прэзыдэнта ды Вітаса, папрасіўшы замірэньня у Пілсудскага, зьвярнуліся зусім не да яго, але да маршалка Сойму Ратая. Бо, зрокшыся ўлады, прэзыдэнт Войцеховскі перадаў яе—згодна з польскай Канстытуцыяй—маршалку Сойму Ратаю, але не Маршалку Пілсудскаму...

Вось што пісаў Прэзыдэнт да марш. Ратая:

„Прашу пана маршалка Сойму зараз-жа прыехаць да мяне ў Вілянов, каб прыняць маю заяву, якую маю зрабіць у прысутнасьці ўраду—дзеля спыненьня далейшага праліцьця крыві. Прашу Вас зараз-жа зрабіць патрэбныя крокі — дзеля замірэньня".

Падпісана: **Станіслав Войцеховскі** (бяз слова „прэзыдэнт"). А подпіс змацаваў: (прэм'ер) **Вітос.**

### Марш. Ратай у Марш. Пілсудскага.

Атрымаўшы гэткі ліст, м. Ратай паехаў зараз-жа да марш. Пілсудскага. Пілсудскі, які сьпярша, у часе першай спробы таго-ж Ратая дабіцца паразуменьня між абыдвума варожымі лагерамі, наадрэз адмовіўся размаўляць з м. Ратаем, цяпер, пасьля перамогі, згадзіўся на пасрэдніцтва м. Ратая і зараз-жа даў загад прыпыніць ваенную акцыю проці войск Вітаса.

### Марш. Ратай у Прэзыдэнта Войцеховскага.

Прыехаўшы да Вілянова, марш. Ратай атрымаў ад прэз. Войцеховскага фармальнае адрачэньне ад улады і даручэньне яму, Ратаю, як маршалку Сойму, спаўняць абавязкі Прэзыдэнта Рэспублікі. Вось гэты цікавы **дакумэнт аб адрачэньні пана Войцеховскага ад прэзыдэнцтва:**

„Пану маршалку Сойму.

Дзеля ўтварыўшагася палажэньня, якое не дае мне магчымасьці спаўняць абавязкі Прэзыдэнта Рэспублікі, я адракаюся ад гэтага становішча, ды—згодна з арт. 40 Канстытуцыі—перадаю паўнамоцтвы Прэзыдэнта—маршалку Сойму. Адначасна з тым далучаю і заяву аб адстаўцы ўраду".

На асобным лісьце была напісана падпісаная Вітасам заява аб адстаўцы ўраду.

### Значэньне гэтых актаў.

З гэтых цікавых дакумэнтаў відаць, што як прэзыдэнт Войцеховскі, таксама і прэм. Вітас, толькі **фактычна** прызналі факт ужыцьця збройнай сілы Марш. Пілсудскім, але зусім ня прызналі яго ўлады **юрыдычна**. Ня прызнаўшы Пілсудскага дыктатарам, яны згодна з Канстытуцыяй прызналі найвышэйшай уладай — маршалка Сойму, — таго самага Сойму, проці якога так рэзка выступаў маршалак Пілсудскі. Трэба прызнаць, што гэта быў вельмі лоўкі і спрытны тактычны крок з боку польскай рэакцыі, ня кажучы ўжо аб яго законнасьці,—бо ён адчыняў шырокія магчымасьці—**„канстытуцыйнага паразуменьня" між двума палітычнымі абозамі,** — пасьля ваеннага паражэньня аднаго з іх...

### Урад п. Бартэля.

Марш. Пілсудскі згадзіўся на гэтую камбінацыю. Сам Пілсудскі, падпарадкаваўшыся скромна (але не выпускаючы фактычнай ваеннай улады з рук,—у гэтым увесь сэнс падзей!) новай **кампраміснай** „вярхоўнай уладзе" Ратая, прыбыў 15 траўня ў Сойм, дзе паразумяваўскя з м. Ратаем. **Пасьля гэтага паразуменьня з м. Пілсудскім** м. Ратай пачаў канфэраваць ды паразумявацца з лідэрамі амаль ня ўсіх тых соймавых партыяў, якія ўваходзілі ў склад, ці якія падтрымлівалі—папярэднія ўрады Грабскага ці Скшыньскага... М. Ратай меў нарады з пэпэсамі, з Клюбам Працы, з хадэкамі ды навет—з эндэкамі. Не хапала толькі яму паканфэраваць і з пястоўцамі, але-ж — на што, калі ён—сам шчыры пястовец, дык мае за ўсёды час—паканфэраваць сам з сабой ды з сваімі таварышамі па партыі.

У выніку гэтых нарад м. Ратай назначыў прэм'ерам п. Бартэля з Клюбу Працы, які ўжо быў няраз міністрам у розных „коаліцыйных" урадах..

### Склад ураду п. Бартэля.

Бартэль, хаця сам пасол, аднак-жа злажыў свой урад — выключна з пазапарлямэнцкіх „фахоўцаў".

Новы ўрад Бартэля, як заявіў сам прэм'ер, мае „зьліквідаваць пасьледзтвы стварыўшагася палажэньня", загарантаваць бясьпечнасьць краю вонках і ўнутры, даць магчымасьць насяленьню вярнуцца да нармальнай працы (ўсё, як было...) ды ўрэшце—давясьці да выбараў новага прэзыдэнта Нацыянальным Сабраньнем... Гэты Агульны Нацыянальны Збор (злучанае паседжаньне Сойму і Сэнату—тых-жа — бяз новых выбараў!) мае адбыцца, як заявіў прэм. Бартэль,—у найбліжэйшым часе... „ўрад будзе крэпка стаяць на груньце Канстытуцыі! закончыў прэм'ер.

Вось, які ўрад мае выпаўніць усю гэтую запраўды-ж—„ліквідацыйную праграму" п. Бартэля:

Міністрам **унутраных спраў** назначаны ведамы крэсавы ваявода **Млодзяновскі,** назначаны яшчэ ўрадам Ул. Грабскага—дзеля „ўсьмірэньня" Наваградчыны.

Мін. **ваенным**—марш. **Пілсудскі.**

Міністар **фінансаў** — былы віцэ-міністар міністра Зьдзехоўскага **п. Чэховіч.**

Міністрам **справядлівасьці п. Маковскі,** былы міністар справядлівасьці ўраду... генарала Сікорскага!—Той самы праф. Макоўскі, які яшчэ перад судом у Беластоку — ужо з трыбуны Сойму цалком „утапіў"—на падставе даносаў дэфэнзывы —беларускага пасла Барана — за „адарваньне Беларусі ад Польшчы і... далучэньне... да Літвы!"...

Міністрам **таргоўлі і прамысловасьці** будзе чыноўнік міністэрства **п. Глівіц.**

Міністар **публічных работ** — праф. палітэхнікі **п. Броніноўскі.**

## Нямецкая прэса аб падзеях у Польшчы.

У Бэрлінскай газэце „Vossiche Ztg." надрукована стацьця аб апошніх выпадках у Польшчы. Газэта напачатку адзначывае, што няясна дагэтуль, якое становішча займе Пілсудскі: ці шэфа арміі, ці прэзыдэнта?

У кожным выпадку новы ўрад, незалежна ад таго, які будзе новы курс у Польшчы, будзе знахадзіцца пад яго кіраўніцтвам.

На некарысьць Пілсудскага гаворыць факт, што ён ня мае ніякай праграмы, гэта можа стацца вельмі небясьпечным пры катастрафальным фінансавым палажэньні Польшчы і адсутнасьці веры заграмічнага капіталу.

Першым крокам Пілсудскага мусіць быць выстаўленьне фінансавай і соцыяльнай праграмы, калі ня хоча ён дачакацца таго самага, што і яго папярэднікі. Пакуль-што—піша газэта—Пілсудскі карыстаецца даверыем шырокіх масаў, і ён мо' ёсьць адзіным чалавекам у Польшчы, каторы можа абаперціся на ўласнай павазе ды правясьці фінансовая зьмены, эвэнтуальнае навет пад кантролем Лігі Народаў.

Вайсковы пераварот закончаны перамогай. Найважнейшы этап аднак толькі яшчэ прыйдзе.

Унутрана палітычная праграма Пілсудскага ёсьць поўнай проціележнасьцю праграмы правых партый. Маршалак Пілсудскі, выступаючы проці цэнтралізацыі, быў староньнікам фэдэрацыйнай польска-беларуска-украінскай рэспублікі. Лад гэтакі зьмяняе паміж іншым і долю нацыянальных меншасьцяў, што не асталася-б бяз уплыву на ўзаемаадносіны нямецка-польскія.

Якое будзе адношаньне да Расеі—з прычыны таго, што Пілсудскі дамагаецца беларускіх і ўкраінскіх зямель, знаходзячыхся пад Маскоўскай уладай, (?) трудна адразу прадбачыць. Можа з гэтага выйсьці эвэнтуальнае завастрэньне адносін з Расеяй.

---

Мін. **працы** — ўрадовец таго-ж міністэрства **п. Юркевіч.**

Міністрам **асьветы** назначаны былы міністар асьветы ў габінэце Понікоўскага **п. Мікулоўскі-Паморскі** аб якім калісьці шмат гаварыла лявіца ў Сойме, ды які, як і ўсе польскія міністры асьветы,—ліквідаваў няпольскае школьніцтва.

**Урэшце—міністрам зямельных рэформ** назначаны—папярэднік цяперашняга міністра Радвана — **п. Рачыньскі,** які якраз зьяўляецца аўтарам прынятага Соймам закону — „аб парцэляцыі і асадніцтве"...

Вось які ўрад створаны ў выніку кампрамісу ды паразуменьня Марш. Пілсудскага з тымі, каго ён толькі-што разграміў артылерыяй... Вось які ўрад стварыўся ў выніку пралітай польскай арміяй, ці папросту сялянамі і работнікамі—крыві...

### Становішча работнікаў.

14 мая, у дзень ваенных апэрацый на вуліцах Варшавы, работнікі не асталіся пасыўнымі абсэрватарамі.

Была аб'яўлена **агульная забастоўка ў Варшаве,** як пратэст проці ўраду Вітаса і Войцехоўскага.

Забастоўка аднача насіла характар маніфэстацыі **за Пілсудскага і работніцка-сялянскую ўладу.**

---

# Казімір Сваяк.

Звычайны для беларускіх народных інтэлігентаў цярністы жыцьцёвы шлях закончыў Ён звычайнай-жа для іх сьмерцяй—ад сухотаў.

Так яно ў нас вядзецца заўсёды: дзіця, узгадаванае ў курнай мужыцкай хаце, ад першага дня жыцьця свайго спазнаўшае, што такое голад і холад, аддаўшае ўсе сілы свайго кволага цела на працу **мысьлі,**—ня мела ўжо патрэбнае адпорнае сілы на тую страшную хваробу, якая што-дня зьбірае багатае жніво спасярод працоўнае беднаты..... І наш пясьняр, уваходзячы ў самастойнае жыцьцё, увайшоў у яго ўжо заражаны хваробай, якая скасіла цэлы доўгі рад найлепшых працаўнікоў і барацьбітаў за адраджэньне і вызваленьне Беларусі.

— — — — — — — — — — — —

Кс. Стэповіч, яшчэ дзяцюком быўшы, вельмі горача і балюча адчуваў сваей нязвычайна чуткай душой вялікую **драму працоўных.** Лішне добра прыглядзіўся ён з малых гадоў да ўсіх нягод і зьдзекаў, якія церпіць сялянская маса — тут, у Беларусі. Прыглядзіўся і да мук мястовага работніка, бачыў, як у вялізарнай сталіцы царскае Расеі—Пецярбурзе—з мазаля работнікаў тварылася і расло ўсялякае багацьце, як працу беднаты пажыралі дармаеды. І ўсё гэтае запісываў у сваім штодзёньніку, і на ўсё гэтае шукаў рады-леку.

Узгадаваны ў каталіцкім духу, сам прадстаўнік каталіцкае царквы, кс. Стэповіч у-ва ўсім гэтым **павінен быў** бачыць **„Найвышэйшую Волю"**. Але тая рэлігія, у якой ён шукаў адказу на ўсе жыцьцёвыя пытаньні, загадвала яму верыць, што гэтая „Найвышэйшая Воля" разам з тым зьяўляецца і **„Найвышэйшай Справядлівасьцяй".** Тымчасам жыцьцё яму на кожным кроку паказвала, што не справядлівасьць, а **сіла дужэйшага** пануе над сьветам і дыктуе яму свае законы. Шчыры беларус, гарачы адраджэнец,—кс. Стэповіч бачыў, што народ беларускі пакутуе ў падвойнай няволі: і сацыяльнай, і нацыянальнай—духовай, а віны гэтага панявоненага народу, якая апраўдала-бы „Найвышэйшую Справядлівасьць", ніяк знайсьці ня мог. Дык, падобна да таго, як некалі беларускі рэвалюцыянэр-паўстанец Костусь Каліноўскі, і наш Сваяк **утраціў веру ў гэную „Найвышэйшую Справядлівасьць",** якая ня хоча ці ня можа скрышыць пярунамі свайго гневу ўсю крыўду і ўсё злое на сьвеце....

Для каталіцкага ксяндза—гэта-ж вялікая трагедыя. І тым больш вялікая, што ён навет ня мог ні з кім з сваіх таварышоў дзяліцца сваімі думкамі аб гэтым, што наагул **хацеў** шчыра верыць у Моц і Справядлівасьць Бога! Можа гэта і пабуджала яго шукаць выхаду для сваіх думак у паэзіі, гдзе—пад мянюшкай Казіміра Сваяка— толькі і мог шчыра боль душы свaей высказаць.

Праглядаючы томік яго вершаў **„Мая ліра",** выданы Беларускім Выдавецкім Таварыствам у 1924 годзе ў Вільні, мы і бачым усюды **крык роспачы** „душы збалелай, з мук ашалелай", бачым страшэнную духовую драму паэта-ксяндза, утраціўшага веру ў Найвышэйшую Справядлівасьць. Сваяк нязвычайна балюча адчувае гора і няволю беларускага працоўнага народу, усей душой любіць сваю Бацькаўшчыну-Беларусь, сумуе, што слабыя сілы яго не даюць яму магчымасьці стануць у рады актыўных барацьбітаў за вызваленьне яе, бо **„з рук божага Даўцы" ён ужо не чакае „збаўленьня з долі апляванай",** бо „збаўленьне" гэтае вымагае—**барацьбы!**

І толькі ў самым бяздоньні няверы
Іскра надзеі ў попелі тлее:
Іскра надзеі, што рана бяз меры
Долі народнай душы разагрэе.

Іскра надзеі пажарышчам стане,
Аж твар схаваюць нябесныя зоры,
І дух народны адважна паўстане;
Раўняці будзе даліны і горы!

Сваяк вачыма душы шукае „сільных між браці паганай" і верыць, што вось нарасьце пакаленьне, якое

Будаваць будзе на зломах Айчыну
Рукой магутнай з агнём Прамэтэя,
А сам, як зьгіне, дасьць тастамант ыну,
Каб не змалела Айчыны Ідэя....

Як маглі зьмясьціцца такія думкі і імкненьні пад чорнай ксяндзоўскай сутанай?! Вось, у гэтым і трагедыя Сваяка, якая пэўне-ж ня ў меншай меры, чым сухоты, нішчыла яго кволы арганізм. Душна і цесна было яму ў тых путах, якімі скаваў яго духоўны стан. А разарваць гэтыя путы ня было ўжо сілы: ані фізычнай, бо цела ўсьцяж слабела, ані духовай, бо **патрэба** верыць, вытвараная ў ім усенькім **узгадаваньнем,** не пазваляла яму фармальна адкінуць тое, што фактычна ў ім замерла....

Дык цяжкім сумам і адчаем веець ад усей паэзіі Сваяка. І адзінай аддушынай, адзінай пацехай у ягоным жыцьці, поўным трагізму, была тая **новая вера,** якая патроху пачала замяняць Сваяку старую веру ў Бога: гэта—**вера ў свой народ.** І ў сваім „Тастаманьце" Сваяк адказуе гэту веру і прыяцелям сваім, а ворагам народу кажа:

А тым, што як вужак асьліняць нас ядліва
То жартам панскім, то замовай агідлівай,
Скажу, што будзе час, калі, прытоптаны нагой,
Вы скажаце: „Вось, *Беларусь пайшла аднак гарой!*"

— — — — — — — — — — — —

Творчасьць Сваяка не абмежавалася адно гэтым зборнікам. Паэт наш пісаў усьцяж, друкуючы свае новыя творы ў беларускіх часопісях, дый, здаецца, многа вершаў яго асталося ў рукапісах. Пакінуў ён і свой дняўнік, які мае вялікую цану дзеля пазнаньня гэтае вялікае, але надломанае неадпаведнымі варункамі жыцьця і паражытай трагедыяй Душы. Трэба спадзявацца, што ўся літэратурная спадчына па ім будзе рупліва сабрана і аддадзена грамадзянству—ў друкаванай форме.

Глыбокія думкі, шчырыя перажываньні, вылітыя ў вершах Сваяка, зусім акупяць іх тэхнічныя нястачы і шмат каго прымусяць глыбей і паважней унікнуць у жыцьцё, у яго законы і сілы, кіруючыя ім.

**Ант. Навіна.**

# ХРОНІКА.

**Галадоўка палітычных вязьняў.** 14 мая палітычныя вязьні на Лукішках у Вільні аб'явілі галадоўку. Паміж іншымі, выставілі яны дамаганьне датрыманьня абяцанак, вываяваных у часе апошняй галадоўкі, прадоўжаньня часу на спацэр для жанчын і др. Ужо вечарам галадоўка была зломлена. Чакаем ад новага ўраду, паўстаўшага на развалінах рэакцыі, звальненьня ўсіх ахвяр дацяперашняй проціработніцкай і процісялянскай палітыкі. Чакаем агульнай амністыі для палітычных вязьняў!

**Да прызыву рэкрутаў 1905 году.** У звязку з адбываючымся прызывам 1905 г. здараліся выпадкі няпрысутнасьці навабранцаў на камісіі ў дзень вызначаны РКU. Відаць, яны лічылі, што могуць явіцца пасьля закончаньня прызыву ў днях дадатковых. Вось-жа выясьнілася, што паліцыя будзе сілай прымушаць рэкрутаў прыхадзіць на другі дзень і акрамя таго за няпрысутнасьць адміністрацыйным шляхам будзе назначана кара.

Не падлягаець кары навабранец толькі тады, калі за дзень перад камісіяй ён пісьменна, або вустна павядоміць старшыню яе, падаўшы прычыны, непазваляючыя яму быць у вызначаны дзень.

**Таварны рух у СССР.** 11 мая адбылася на пагранічнай станцыі Загацьце жалезнадарожная канфэрэнцыя паміж уладамі польскай і радавай.

Паміж іншым, пастаноўлена ад дня 11 мая адкрыць таварны рух між абедзьвюма дзяржавамі праз станцыю Загацьце.

**Рэпрэсіі проці фашыстаў.** Адміністрацыйная ўлада, паразумеўшыся з вайсковай, налажыла арашт на рэдакцыю фашыстычнай газэты „Dzieńnik Wileński". Памяшчэньне рэдакцыі апячатана; адказны рэдактар Кодзь, выдавец пасол Зьвежыньскі і супрацоўнікі Ковнацкі ды Папузіньскі былі адвезены ў вайсковую сьледчую турму на Антокалі. Папузіньскага і Зьвежыньскага пасьля допросу звольнілі.

Адначасна быў зроблены вобыск у кватэры рэдактара гэтай-жа газэты Обста. Сам ён уцёк; знайдзена пад ложкам толькі вінтоўка.

„Dziennik Wileński" яшчэ нядаўна ўславіўся тым, што падгатаўляў і арганізаваў першамайскі пагром у Вільні. Арышт наложаны на газэту ў зьвязку з пашыраньнем ёю фальшывых ведамасьцей аб перавароце ў Польшчы.

**Лекцыя аб М. Гарэцкім.** Апошняя лекцыя, уладжаная 13 мая Беларускім Студэнцкім Саюзам, была пасьвячона ведамаму беларускаму пісьменьніку Максіму Гарэцкаму. Лекцыю гэвую на тэму „Гарэцкі, як ідэалёг беларускае народнае інтэлігенцыі", прачытаў грам. Ант. Луцкевіч—пры поўнай салі.

Лекцыя выклікала асаблівае зацікаўленьне паміж іншым і затым, што ў абодвух выданьнях „Гісторыі Беларускае Літэратуры" няма ніводнага слова аб Гарэцкім, бо... аўтарам яе зьяўляецца сам-жа Гарэцкі, якому ніяк было пісаць аб самым сабе!

**Прыклады дзеля насьледаваньня.** Цэнтр. Бел. Школьная Рада просіць нас адзначыць, што першымі былі апарожнены скарбонкі дзеля збору ахвяр на беларускую асьвету—у мяст. Глыбокім. За прысланыя з іх грошы Ц. Б. Ш. Рада выказывае глыбачанам сваю падзяку.

Бел. Камітэт помачы ахв. вайны дзякуе грам. Андрэю Іванчуку з Амэрыкі за прысланыя на прытулак для беларускіх дзяцей у Вільні 35 зл.

**Падзяка.** Урад Бел. Навуковага Т-ва гэтым выказвае сваю падзяку за ахвяраваныя ў музэй ім. Ів. Луцкевіча рэчы:

**Уладзіміру К. ў Міру**—за 1 манэту;
**Юрыю В. ў Міру**—за 2 мядалі;
**Г. Леўчыку ў Слонімшчыне**—за акамянеласьць.

**Афіцыяльны курс грошы на 18 траўня.** Даляр— 10 зл. 40 гр. Залаты рубель — 5 зл. 33 грошы.

17. V. на чорнай біржы ў Вільні за даляр плацілі 10,45.

# Карэспандэнцыі.

## Ці гэта вучыцель?

(Чарніхоўская гм. Баранавіцкага пав.).

Справа была ў аўторак, 6-га красавіка. Ехаў я ў мястэчка Сноў на кірмаш,—па дарозе я ўзяў падвязьці аднаго жыхара з вёскі Ліхасельцы, які расказаў мне пра свайго вучыцеля Владыслава Урбановіча, — што ён вычаўпляе ў іх. Зачаў ён гэтак:

„Сьпярша, як застаўся ў нас у 1921 годзе, дык быў зусім голы,—ня меў нічога;—павучыўшы з месяц, зачаў ён хадзіць з нагайкаю па сяле і страшыць, што ён вывядовец. Пасьля сказаў, што будзе ў кожнага жыхара хадзіць па калейцы есьці, ну і хадзіў, як пастух па хатах, — колькі дзяцей, толькі дзён. Ды і цяпер яшчэ не паправіўся, заказвае, каб прыносілі сала, каўбас, сыра, масла,—і сяляне прыносілі, бо баяліся, як хто ня прынёс, дык казаў, каб падымалі рукі, дзякуючы гэтаму кожны прынёс. А што да вучэньня, дык ён зусім ня ўмее вучыць. Колькі будзе два разы па два, вучні ня ведаюць; — адно пяяць вучыць: Марш Дамброўскага, і „Мы польскі народ", — а апалячыць дзяцей надта хоча. Як вучань ня ўмее лекцыі,—вельмі б'е. Напрыклад. Якубовіча Лёву за лекцыю гэты „вучыцель" падняў за вушы да самае столі, аж чуць не паадрываліся вушы, і хлапец заліўся кроўю; другога Сяргея Калошу гэтак сама рукою выцяў у нос, і той заліўся крывёю".

**Падарожны.**

## Як падзелена пасеўная пазыка ў Стаўпецкім павеце.

Пасеўная пазыка ў Стаўпецкім павеце дзялілася гэтак, што хто мае шмат зямлі, той і атрымаў большую пазычку, хто мае меней зямлі,—атрымаў меншую пазыку, а хто мае зусім мала зямлі, дык і зусім не атрымаў пазыкі.

Так напрыклад, найбольшы абшарнік, Крупскі, атрымаў 90 проц. пазыкі, а 10 проц. падзелена паміж 3-мя гаспадарамі і 1 асаднікам.

Гэта, як у нас кажуць—новы „дэмакратычны" спосаб падзелу паньствовых крэдытаў сярод насяленьня

**Засулец.**

## У Радзівілаўскім „князьстве".

(З Стаўпецкага пав.).

Князь Радзівіл дагэтуль не заплаціў навет 1-ай раты даніны, ня гледзячы на тое, што ўжо пара, здаецца, плаціць і 3-ю...

Адміністрацыя князя тлумачыць гэта сваею беднасьцю, а нашы ўрады ім патураюць, і нікому, мусіць, ня ведама, што абароты кассы за эксплёатацыю лясоў сягаюць сотняў фунтаў штэрлінгаў.

Гэта ўсё робяць нашы так-званыя „крэсавыя польскія патрыёты". А як яны абіраюць нас — сялян?! Вось прыклад.

Ад вякоў карысталіся мы ў лясох кн. Радзівіла пашаю. Даўней плацілі па паўрубля ад штукі. Праўду сказаць, у часе свабоды зусім не плацілі.

У 1925 годзе плацілі па 3 зл., але на нашае няшчасьце „зажонд" кн. Радзівіла з патрыятычных пабудак перайшоў на штэрлінгі. Ведама, як штэрлінгаў мы ня маем, дык „зажонд" зажадаў ад нас, каб за кожную штуку абкарылі 20 пнёў і на гэтым прасторы зрабіць падчыстку: сабраць усе трэскі, сукі і кару, верхавіны паацярэбліваць, акарыць і злажыць у кучу.

І каб гэта была яшчэ агульная парубка, дык яшчэ ні сё ні тое; але ад нас вымагаюць гэту работу пры так-званай выбарачнай рубцы, гдзе пень ад пня можа за паўвярсты!..

Вядомая рэч, што нашае сялянства гэтакія варункі прыняць ня можа і кантрактаў не падпісала.

Быдла ў хлеве раве. Дабрабыт сялян нішчыцца, і няма ведама, што нам выбраць за лепшае: ці перайсьці на паншчыну, ці пазбыцца быдла.

Мала гэтага: адміністр. Акінчынскага лясьніцтва паадбірала ўсе квіты на вываз дроў з лесу ад тых вёсак, якія не падпісалі „дабравольныя" ўмовы на паншчыну. Відаць з усяго, што адміністрацыя задалася мэтаю пазбавіць нас і быдла і заробкаў.

**Арцюхавец.**

## Новы падатак.

(З Стаўпеччыны).

У напрамку са Стоўпцаў у Івенец дарога ляжыць праз вёску Сьцяцкі. Увосень і вясною, праўду кажучы, праз гэтую вёску праехаць немагчыма. Перад вайною дарогаю гэтаю карысталіся 2 вёскі: Слабада і Ячная. Але з утварэньнем новай „усходняй" граніцы ўвесь рух да Стаўпецкага вагзалу з Івенецкай, Ракаўскай, Пяршайскай і Валмянскай гмінаў ідзе праз гэгу вёску.

І вось, ня ведама па чыйму, загаду адбыўся зьезд войтаў Стаўпецкага павету. Тыя ад імя сваіх гмін — ухвалілі дабравольную дастаўку каменьня на гэтую вуліцу, па паўмэтра з дзесяціны надзелу.

Невядома для нас, ці гэта тычыцца таксама і абшарнікаў Стаўпецкага павету? Цікавая рэч, дзеля чаго тады істнуюць „самажонды" гмінныя і павятовыя, калі такія справы, як дарога і дарожныя павіннасьці, могуць ухваляць самі п. п. войты?!

Гэта адно, а другое, што гэтая дарога, пра якую йдзе гутарка, носіць характар больш стратэгічны, і цяжар павінна нясьці ня то што Стаўпецкая гміна, а ўся дзяржава.

**Заяменец.**

## З Пархвенаўшчыны.

(Дзісенскага пав.).

Зьнік з палітычнай арэны нашай гміны лякай польскай буржуазіі войт Маркевіч, але тыя цёмныя сілы, якімі ён быў выкліканы на войта ня зьніклі, а толькі на час прытаіліся, а мо' толькі аддыхалі пасьля доўгай працы, каб пасьля выступіць з новай сілай і сваім бізуном страшней і балючай удэрыць па голай мужыцкай сьпіне.

Ад 22./X. 1925 г. да 24./I. 1926 г. йшла скрытая вайна розных жываедаў за „патэнт" на вайтоўства ў Пархвенаўскай гміне. У ход пускалася ўсё: грошы, знаёмства, сувязі родныя і партыйныя і г. д. Бяз пытаньня ў сялян хутка паўстала, зацьвіла і яшчэ хутчэй зьнікла кандыдатура на войта вызваленца і здрадніка сялянскіх інтарэсаў Каетана Гайковіча; за ім у пропасьць паляцела і кандыдатура Сіняўскага, выстаўленая гміннай „spółdzielni z ograniczoną odpowiedzialnością", за імі—выгнанага за крадзеж з маёнтку Пархвенава ўпраўляючага Галендзіноўскага і г. д.

Ува ўсіх гэтых асоб, як кажуць нашы сяляне, „не хваціла грошы, каб купіць у павеце патэнт на войта", ці, прасьцей кажучы, „купіць месца войта". Але вось як сталася: Раптам ні з таго ні з сяго і бяз хмараў і бяз грому дня штосьці 25/I 1926 г. прыехаў к нам у гміну войт з „Urzendu" „па загаду старасты Дзісенскага пав." і пачаў прынімаць ад п. Панкратовіча ўсе гмінныя справы. Гэта аказаўся польскі шовініст і гакатыст на нашай зямлі абшарнік Буш.

Перад тым, чым паехаць „прынімаць" гміну, ён падрад некалькі дзён і начэй „трактаваў" у сваім маёнтку старасту. Першым крокам новага войта быў загад аб спагоне недаплачанага гміннага падатку. Пры гэтым сэквэстрацыя была пасунута да апошніх граніц, за якімі ўжо астаецца толькі пустыня і сьмерць (згалелым гаспадаром не давалася на выкуп засэквэстраваных рэчаў навет і тыдня). Далей калі сяляне, выгнаныя загадам „п. вуйта" бездарожжу ў фурманкі, прывязьлі дроў ня гэтулькі, колькі хацелася „п. вуйту" Бушу, ён іх вылаяў апошнімі словамі і паштрафаваў. Сяляне пацерабілі патыліцы,ператупвулі некалькі разоў з нагі на нагу і паехалі сабе дамоў.

Найцікавей, аднак, тое, што гаспадаруючы ў гміне п. Буш і ня думае навет пытацца згоды ў паслушнай ад веку п. старасьце „нашай" гміннай рады, а гміну прыняў навет не знаёмячыся з ёю. І аб усім гэтым гмінная рада маўчыць... каб ня страціць пэнсіі ў ліку 50 зл. на асобу месячна, як мне з гордасьцю хвалілася маці аднаго раднага. „Што-б ён сваім праціўствам зрабіў?"—сказала яна мне наастатку,—„усёроўна будзе так, як загадае староста, а пяцьдзесят злотых на зямлі не валяюцца".

Вось, як гаспадаруюць у нашай гміне.

**Б. Свой.**

# Работніцкае жыцьцё.

## Новыя безработныя.

Гэтымі днямі гарбарня Малота ў Вільні на Сьніпішках спыніла саўсім працу з прычыны нястачы купцоў на тавары і агульнага эканамічнага застою. Выкінена на вуліцу яшчэ 50 работнікаў.

## Забастоўкі з прычыны колектыўных умоў.

Між работнікамі і прадстаўнікамі ўласьнікаў віленскіх фабрык вядзецца заядлы спор. Работнікі дамагаюцца заключэньня і на гэты год колектыўных умоў; фабрыканты наадрэз адмовіліся.

Апошнімі забаставалі з гэтай прычыны электромонтэры і работнікі шкляных гут.

Толькі паміж уласьнікамі готэляў і службай падпісана новая ўмова на 1926 г.

## Спор у тартаках.

У апошніх днях работнікі тартакоў у Вільні паставілі дамаганьне падвышкі платы о 50%.

## Рэпрэсіі проці праф. саюзаў.

Чытаем у „Niezależnym Chłopie": як рэзультат крывавых замешак сярод безработных у Калішу—былі тутка масовыя арышты.

Адначасна з гэтым апячатана памяшчэньне прафэсіянальных саюзаў і сэкрэтарыят незалежных сацыялістаў. У Влацлавку таксама пастановай акружнага суда разьвязана рада прафэсіянальных саюзаў.

Гэтакім чынам за замешкі сярод галадаючых безработных пакутуюць яшчэ прафэсіянальныя саюзы, пры тым, зразумела, такія, каторыя чысты ад пэпэсаўскіх лякаёў.

## Конфэрэнцыя шавецкіх і гарбарскіх саюзаў.

Дагэтуль ува ўсей Польшчы істнавалі толькі мясцовыя арганізацыі шаўцоў і гарбараў па розных гарадох. Навет у адным горадзе былі арганізованы жыдоўскія работнікі асобна ад рэшты.

25/IV Цэнтраля Проф. Саюзаў у Варшаве склікала конфэрэнцыю прадстаўнікоў асобных саюзаў з мэтай аб'яднаньня ўсіх гэтых арганізацый бяз розьніцы фаху і нацыянальнасьці. На конфэрэнцыю прыслалі дэлегатаў саюзы Варшаўскія, Кракаўскія, Львоўскія і Віленскія.

Пастанаўлена на ёй стварыць адзіны цэнтральны саюз. Выдзелена камісія, каторая паміж іншым мае падрыхтаваць агульны зьезд сяброў.

Было-б вельмі карысна для неарганізованых шаўцоў і гарбароў увайсьці ў саюзы, або, калі іх няма ў горадзе,—залажыць новыя ды прылучыцца да аб'яднаньня. Разам лягчэй бараніць свае правы.

# Паштовая скрынка.

**Іг. Дв. ў Празе.** Матэрыялы атрымалі,— дзякуем, выкарыстаем.

**Панам Стэповічам у Вільні.** Вашае просьбы дзякаваць ад Вашага імя праз нашу газэту „Часовай Радзе" і інш. ня споўнім. Можаце падзякаваць беспасрэдна, або праз орган партыі, да якой належыце.

**Грам. Алексе.** Пісьмо Вашае аддалі ў Бел. Сял.-Раб. Грамаду.

Рэдактар-Выдавец: Ал. Вільчыцкі.

Друкарня Н. Левін і Сын, Вільня, Нямецкая 22.